БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА ЗАСНАВАНАЯ У 1906 У ВІЛЬНІ АДНОЎЛЕНАЯ ТАМСАМА У 1991 Г ЯК ШТОМЕСЯЧНІК З 1 САКАВІКА 1996 Г ВЫХОДЗІЦЬ У МЕНСКУ

**Сяржук Сокалаў**

***

*Васілю Быкаву*

Падумаў я, што ўсё – мана.
Падумаў: мёртвым забалела
І маўзалейная труна
Аддасьць зямлі пустое цела

І вернуцца у жыцьце праз боль
Мільёны мёртвых — я падумаў —
І раны ўдзячна прымуць соль
І будзе лад на месцы тлуму

Я крыкнуў: До ўжо сьлезы ліць!
Зірніце, людзі, колькі нас тут!
Ды толькі мёртвым не баліць.
Ідуць памерлыя у наступ

Нясуць крывавыя сьцягі,
Жывых у царства сьмерці клічуць
Ім не баліць... І ран ня лічуць
Камуністычныя багі
ы
Сьпяваи жа, муза, суд вяршы
Збудзі жывых, якія ў стане
Праз жураўліны крык душы
Дажыць да новага сьвітаньня

*15 16 чэрвеня 1994 Нью Ёрк*



# НАРОДНАЯ КНІГА

## ВАСІЛЬ БЫКАЎ. СЬЦЯНА

Пасьля неаднаразовых прапановаў нашых чытачоў і з ласкавае згоды народнага пісьменьніка Беларусі Васіля Быкава выдавецтва «Наша Ніва» прыступае да вы даньня новае кнігі прозы В.Быкава «Сьцяна». Як вядома, гэтае выданьне рыхтавалася да выхаду ў дзяржаўным выдавецтве, але сёньняшні палітычны рэжым спыніў гэтую працу. Мы далёкія ад думкі, што беларускае слова можа ў прынцыпе існаваць толькі за дзяржаўныя падачкі, і мяркуем, што паміж творамі народнага пісьменьніка, як зрэшты, і іншых таленавітых літаратараў з аднаго боку і чытачом – з другога ня мусяць паўставаць непераадольныя бар'еры чынавенскае прыхамаці. Кнігі лепшых беларускіх літаратараў будуць выходзіць у такім аб'ёме і датуль, колькі і дакуль у гэтых кніг будзе чытачоў. Гэтак нарадзілася ідэя стварыць прэцэдэнт Народнае Кнігі. Мы ня ставім на мэце знайсьці спонсараў або зрабіць прыгожы жэст дабрачыннасьці. Мы імкнемся, насуперак цынічнаму да нашае мовы й культуры рэжыму, сьцьвердзіць, што беларускія кнігі мусяць выходзіць за грошы і дзеля патрэбаў беларускага грамадзтва. Разам з тым мы спадзяемся на кансалідацыйны эфэкт Народнае Кнігі, якая мусіць умацаваць нашае грамадзтва і дадаць яму сілы духу

Нагадаем, што той хто падпісваецца на кнігі «НН» да іх выхаду у сьвет, аплочвае толькі сабекошт і кошт перасылкі, тады як гатовая кніга з усімі гандлевымі нацэнкамі будзе каштаваць значна даражэй.

Кніга «Сьцяна» складаецца з празаічных твораў Васіля Быкава апошніх гадоў яе аб'ём 17 аркушаў. Мяркуецца што яна выйдзе у сьвет у канцы кастрычніка – пачатку лістапада сёлета.

Умовы падпіскі друкуюцца на старонцы 12

**Выдавецкая група БГФ «Наша Ніва»**

# НАША НІВА

## № 29-30 (91) 29 ВЕРАСЬНЯ 1997 г.

# «Я не пачвара, я пісьменьнік...»

Эсэ на старонцы 3

# Экспэдыцыя «НН» у Полацак да сяброў СБП

На старонках 4 5

# Артыкул пра Міхася Раманюка

На старонцы 8

# Цудоўная фартуна шляхціца Валіцкага

Гістарычны артыкул на старонках 18 19

# Пра «маральнасьць» схаванага забойства

На старонцы 7

# Кароткая аповесьць пра сяброўства

Старонкі 20 21

# Восеньскія цэзуры

Яна прыйшла з доўгачаканымі дажджамі і прахалодаю Стала лягчэй дыхаць у пе рапоўненых камэрах цэнтралаў. Жоўты лісток выпадкова заляцеў у прагулачны дворык «амэрыканкі».

Жоўтыя набоічыкі аўтаматычнай дробнакалібэркі прыгожа рассыпаліся на ільняным абрусе і выклікаюць павагу Жоўты кавалак толу дае надзею Днямі прыязджае жанчына. Ідзі на Камароўку купі ёй салодкага ў сотах Ты бацька і муж ёй Напоўні радасьцю яе верасьнёвае цела Нашапчы родных словаў на вушка. Не забывай кахаючы: жоўтая раса помсты – ворагу! Мёд любові – тваёй беларускай жанчыне!

Восень Усе адноснае дваякае амбівалентнае Толькі Радзіма у адзіночным ліку Толькі яе ні памножыць ні разьдзяліць.

Восень. Выясьняюцца гарызонты, пра ступаюць фігуры калябарантаў Стаяньне на чатырох стала звычкай. Хвіга у кішэні працёрла дзірку. Студэнты паехалі на бульбу. Горад амаладзіўся на некалькі дзён ды ізноў апэнсіянэрыўся

Восень. Загарэлыя твары. Бела-чырвонае шосьце туляецца задворкамі. Абрыдлыя прамовы ўчарашніх. Электарат шукае лідэра. Моладзь пайшла піць піва у Траецкае

Восень – творчая натхняльная, тужлівая разьвітальная пара, пара пачатку нова га. Пахне гародамі і жанчынай Жанчыны ізноў таямнічыя, ізноў яны апранулі чор ныя панчохі і цёплыя гетры. Так жаданыя вымцы схаваліся пад швэдрамі, гольфамі, плашчыкамі курткамі. Дыці табе ня ведаць што схаванае ня есьць адсутным Усё на месцы і толькі чакае моманту адк рыцьця і увазнаньня Дрэмяць нашыя жаданьні, штораз мацней і мацней ускалыхваецца воля да спраўджаньня нашае мэты. І пагоня на Грунвальд не ашчаджае імпэту. І чысьціня бела чырвоных ко лераў, як чысьціня крыві Парадзіхі, – сьлепіць варожыя зрокі

Восень – пара аплікацыяў Чорныя бабовыя стручкі на зялёных сьцяблінах – як чорныя душкі акупантаў на нашых вітальных прасторах. Фіялетавыя качаны капусты, апанаваныя жарлівым вусенем нагадваюць Галоўнага Вусеня з Галоўным Качаном у канюшыне, якая «является ос новной кормовой культурой в животноводстве»*.

Пералётныя птушкі адляцелі ў вырай Ту тэйшыя людзі застаюцца тут. Пахне здаровым гноем з хлявоў, бульбоўнікам яд кой ячменнай саломай садам... Толькі слова пісьменьнік у нас аддае грамадзкай прыбіральняй. Нядаўна ізноў шыба нула ў нос гэтым «водарам» – нейкая Т.Б пусьціла сьлёзку ў абарону свайго карыт ца

Тымчасам восеньскі халадок прымушае думаць пра вогнішча, вогнішча нагадвае табе што ты мужчына...

Восень Файна! Люба! У судах узрыва юцца бомбы. Чаго яшчэ трэба, каб аку панты і калябарацыя палюбілі гэтую лістападаўскую пару?

**Славамір Адамовіч**

* З кніжкі «Герб и флаг Белорусской державы» стар 57

